наша
свабода

№98(185) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

10 ВЕРАСНЯ
2001 года
ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас:
220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail:
NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



# Ганчарык не ўзяў прэзідэнцтва

Ад 20.00 вечара 9 верасня прыхільнікі кандыдата на прэзідэнта Уладзіміра Ганчарыка – блізу 5 тысяч чалавек - знаходзіліся на Кастрычніцкай плошчы каля Палаца прафсаюзаў у чаканні вынікаў прэзідэнцкіх выбараў. Нягледзячы на тое, што цягам некалькіх гадзінаў ішоў досыць моцны дождж, людзі доўга не разыходзіліся. Але пасля абнародвання Цэнтрвыбаркамам папярэдніх вынікаў галасавання, паводле якіх Лукашэнка набраў болей за 75% галасоў (У.Ганчарык – 15,4%, С.Гайдукевіч – 2,5%)і перамог у першым туры, апоўначы тут засталося каля тысячы чалавек.

Пасля агалошвання цэнтрвыбаркамаўскіх лічбаў Уладзімір Ганчарык ад імя шырокай грамадзянскай кааліцыі зрабіў заяву-зварот да грамадзянаў Беларусі і сусветнай супольнасці. У ёй гаворыцца, што ўлада, як і чакалася, пайшла на беспрэцэдэнтную фальсіфікацыю народнага волевыяўлення, парушыўшы ўсе міжнародныя прынцыпы правядзення свабодных і справядлівых выбараў. У прыватнасці, дзеля гэтага выкарыстоўваліся метады масавага датэрміновага галасавання з наступнай заменай урнаў, ціску на выбарцаў, членаў выбарчых камісіяў усіх узроўняў, маніпуляцыяў з бюлетэнямі. На некаторых участках лічбы датэрміновага галасавання сягнулі 70% і болей.


Фота Ул.ШЛАПАКА

Але, як адзначаецца, «дзякуючы незалежнаму назіранню, намі атрыманыя сапраўдныя вынікі галасавання. Мы агалошваем гэтыя вынікі, таму што народ павінен ведаць праўду: Гайдукевіч – 7,1, Ганчарык – 40,8, Лукашэнка – 46,7». Паводле Уладзіміра Ганчарыка, гэта дае права патрабаваць правядзення другога тура выбараў, што дазволіць грамадзянам Беларусі выявіць сапраўднага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

У.Ганчарык падзякаваў усім, хто 9 верасня падтрымаў ягоную кандыдатуру, і заклікаў «сваіх прыхільнікаў, усіх сумленных людзей Беларусі з'яднацца ў імя свабоды, у імя сапраўднай перамогі дэмакратыі, у імя чалавечай годнасці, кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь».

Да міжнароднай супольнасці прагучала просьба падтрымаць патрабаванне правесці другі тур выбараў. Апрача таго, звернута ўвага асобна «Прэзідэнта, Парламента і Урада Расійскай Федэрацыі на факты грубага парушэння выбарчага заканадаўства і фальсіфікацыяў вынікаў галасавання. Мы заклікаем заставацца на прынцыповых пазіцыях падтрымкі сумленных, вольных і справядлівых выбараў у саюзнай Расіі дзяржаве».

Напрыканцы заявы-звароту Уладзіміра Ганчарыка выказваецца спадзеў, што ў Беларусі ў рэшце рэшт перамогуць прынцыпы законнасці і дэмакратыі.

Тым часам Грамадзянская ініцыятыва «Незалежнае назіранне» называе папярэднія вынікі выбараў, адрозныя і ад таго, што падае Цэнтральная выбарчая камісія, а таксама таго, пра што гаварыў Уладзімір Ганчарык. «Незалежнае назіранне» пацвярджае шматлікія факты грубых парушэнняў выбарчага заканадаўства і падтасовак, але даводзіць, што мае дадзеныя, па якіх Аляксандр Лукашэнка тым не менш апярэдзіў Уладзіміра Ганчарыка. Праўда, вынік Лукашэнкі меней прыкладна на 20%, чымсьці абвешчаны старшынёй ЦВК Лідзіяй Ярмошынай.

Аляксандр Лукашэнка яшчэ 9 верасня даў прэс-канферэнцыю, дзе казаў пра «прыгожую перамогу», а Уладзімір Ганчарык заклікаў сваіх прыхільнікаў працягваць змаганне за дэмакратыю. Многім можа падацца, што перамогі давядзецца чакаць яшчэ 5 гадоў, да наступных прэзідэнцкіх выбараў, што маюць адбыцца ў 2006 годзе. І, пэўна, з новымі кандыдатамі на прэзідэнцтва.

## Ці патрэбнае беларускім выбарам прызнаньне?

Аляксандар Лукашэнка падчас галасаваньня на сваім выбарчым участку зрабіў сэнсацыйныя заявы пра тое, што нашым выбарам не патрэбнае нічыё прызнаньне.

На магчымае непрызнаньне вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў Захадам, усім цывілізаваным сьветам, Аляксандар Лукашэнка адказаў: «*А вы знаете, наши выборы ни в чьем признании не нуждаются. Наши выборы должны пройти по нашим законам. Признание Западом или непризнание... Наши выборы должны соответствовать нашей Конституции и нашим законам. Они будут соответствовать не только букве нашего закона, но точке и запятой*».

На просьбу пракамэнтаваць той факт, што ў суботу амбасада Злучаных Штатаў Амэрыкі ў Беларусі распаўсюдзіла ліст прэзыдэнта ЗША Джорджа Буша да Цэнтральна-эўрапейскага прававога цэнтру пра тое, што кіраўнік Беларусі чыніць перашкоды дэмакратычнаму працэсу ў Беларусі й прыцясьняе апазыцыю, Аляксандар Лукашэнка зазначыў: «*Ничего не могу прокомментировать, Буш мне об этом не говорил. И всё, что распространяется – это ложь. Буш этого сказать просто не мог. Это абсолютно точно*».

У пасьпяховых для сябе выніках выбараў Аляксандар Лукашэнка быў перакананы: «Я вам скажу честно, мое настроение отличается спокойствием. Настроение у меня хорошее. Спокойное и хорошее у меня настроение. Поэтому все будет нормально. Белорусский народ может быть уверен, что абсолютно все будет нормально».

**Іна СТУДЗІНСКАЯ,**
**Радыё «Рацыя»**

## Улады шкодзілі як маглі

9 верасня, пасля завяршэння галасавання на выбарах прэзідэнта Беларусі, у Гомелі былі адключаныя тэлефоны шэрагу абанентаў. Найперш пацярпела абласная грамадская арганізацыя «Грамадзянскія ініцыятывы». Акрамя офісных былі адключаныя кватэрныя тэлефоны яе кіраўнікоў — старшыні Віктара Карніенкі, яго намеснікаў Уладзіміра Кацуры і Юрыя Варонежцава. Цікава тое, што ў гэты ж самы час былі адключаныя тэлефоны і ў гасцініцы «Турыст», у нумары, які здымаюць назіральнікі ад місіі АБСЕ Богдан Пагрэбянек і Пауль Дзерунгс са Швейцарыі.

З Юрыем Варонежцавым, які з'яўляецца даверанай асобай Уладзіміра Ганчарыка, удалося звязацца па мабільным тэлефоне. Ён лічыць: тое, што адбылося 9 верасня, немагчыма назваць выбарамі. Варонежцаў сумняваецца, што «амерыканцы прызнаюць такія вынікі».

Першыя папярэднія вынікі галасавання ацаніў і старшыня Гомельскай гарадской арганізацыі КХП-БНФ Уладзімір Старчанка. Ён назваў іх «абсурднымі» і лічыць, што «народ Беларусі падманулі настолькі, што «Дзень дурня» ў гэтай краіне трэба адзначаць двойчы: 1 сакавіка і 9 верасня».

**БелаПАН**

## Ночью после выборов

*К зданию ДК профсоюзов подтягивается большое число представителей средств массовой информации. Все чего-то ждут. Владимир Гончарик призвал людей прийти на Октябрьскую площадь к 10 часам утра. Сам он намерен оставаться во Дворце профсоюзов до утра. Единый кандидат по-прежнему намерен настаивать на проведении второго тура президентских выборов*

В данный момент во Дворце профсоюзов осталось около 200 человек – женщины и несовершеннолетние были выведены из здания по просьбе Владимира Гончарика. Оставшиеся в здании мужчины сейчас баррикадируют двери. К зданию профсоюзов подтягиваются сотрудники правоохранительных органов. Владимир Гончарик в данный момент покинул Дворец профсоюзов. Он намерен вернуться туда через час. В данный момент во Дворце находится его доверенное лицо Михаил Чигирь.

**1.15.** Владимир Гончарик принял решение оставаться на протяжении всей ночи во Дворце профсоюзов на Октябрьской площади. Вместе с ним в здании будут находится штаб единого кандидата. При этом Владимир Гончарик поставил одно условие – из здания Дворца профсоюзов должны удалиться все присутствующие там люди моложе 18 лет. Все. Кто старше этого возраста, останутся в здании ДК профсоюзов до утра.

**Отдел информации**

# Хроніка «датэрміновага» беззаконня

### 4 верасня

4 верасня распачалося датэрміновае галасаванне па выбарах прэзідэнта Беларусі.

Старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына заявіла, што грамадзяніну не трэба прадстаўляць якія-небудзь доказы альбо тлумачэнні, каб прагаласаваць датэрмінова. Яна паабяцала караць чыноўнікаў, якія будуць прымушаць грамадзянаў галасаваць датэрмінова.

**Брэст**

Выбаршчыкам в/ч 22156 (выбарчы ўчастак №71) была ўручаная брашура «Лукашэнка – наш прэзідэнт», якая не мела інфармацыі аб арганізацыях або асобах, адказных за яе выпуск, а таксама пра яе наклад. У сувязі з гэтым незалежныя назіральнікі ў Брэсце накіравалі заяву старшыні абласной камісіі па выбарах прэзідэнта Беларусі, пракурору Брэсцкай вобласці, а таксама ў Цэнтрвыбаркам, піша прэс-служба «Незалежнага назірання».

**Жабінка, Брэсцкая вобласць**

Спецыяльны карэспандэнт газеты «Правінцыялка» Генадзь Самойленка не быў дапушчаны на паседжанне выбарчай камісіі на ўчастку №2, паведаміла прэс-служба Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Пры гэтым старшыня камісіі А.Апекуноў не пажадаў прызнаць за дакумент рэдакцыйнае пасведчанне карэспандэнта.

**Віцебск**

Генадзю Муратаву, члену **віцебскага** абласнога выбарчага штаба кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Ганчарыка, абрэзалі лінію тэлефоннай сувязі. Адбылося гэта ў той момант, калі ён удакладняў па тэлефоне план дзеянняў у першы дзень датэрміновага галасавання, піша БелаПАН. У віцебскім штабе У.Ганчарыка Г.Муратаў адказвае за агітацыю сярод студэнтаў. Напярэдадні, 3 верасня, ён агітаваў іх у сувязі з маючай адбыцца адпраўкай на сельскагаспадарчыя работы, а назаўтра раніцай застаўся без тэлефоннай сувязі.

**Наваполацк, Віцебская вобласць**

Начальнік электрацэха прадпрыемства «Нафтан» У.Карнакоў загадаў усім прагаласаваць датэрмінова. Начальнік аўтапарка №6 Наваполацка М.Дубіна абвясціў, што ўсе супрацоўнікі мусяць прагаласаваць да 6 верасня, піша прэс-служба грамадзянскай ініцыятывы «Незалежнае назіранне». Галоўны дыспетчар прадпрыемства прымушала супрацоўнікаў ісці на датэрміновыя выбары. Начальнік котла-турбіннага цэха Наваполацкай ЦЭЦ М.Лонь абяцаў за ўдзел у датэрміновым галасаванні адгул. Намеснік генеральнага дырэктара ВА «Палімер» Аляксей Пальцаў даваў указанні начальнікам цэхаў наладзіць датэрміновае галасаванне за А.Лукашэнку.

**Віцебская вобласць**

Старшыня выбарчай камісіі на Шуневіцкім участку **Глыбоцкага раёна** Віктар Сета аддаў распараджэнне не дапускаць выбаршчыкаў пры апячатванні урнаў для галасавання. Сваё рашэнне ён патлумачыў тым, што атрымаў вусныя ўказанні ад начальніка аддзела арганізацыйна-кадравай працы выканкама А.Зібаравай, паведамляе «Незалежнае назіранне.» Тая ж чыноўніца загадала старшыням камісіяў не прадастаўляць ніякай інфармацыі назіральнікам да заканчэння выбараў.

**Гродна**

Старшыня гродзенскай абласной выбарчай камісіі Мікалай Прысада «як чалавек, як грамадзянін» мае намер галасаваць за дзеючага прэзідэнта Аляксандра Лукашэнку. Пра гэта ён заявіў 3 верасня падчас выступлення на мясцовым тэлеканале, паведамляе агенцтва БелаПАН. У гродзенскім перадвыбарным штабе кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Ганчарыка расцанілі выступленне старшыні аблвыбаркама як прамую агітацыю за Аляксандра Лукашэнку.

Як паведаміў каардынатар незалежнага назірання ў Кастрычніцкім раёне **Гродна** Адольф Зацэпін, паступілі першыя звесткі аб перашкодах, што ствараюцца незалежным назіральнікам.

*Працяг на стар.3*

## НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**
**1475**

# Так рыхтавала «выбары» ўлада

## Прэзідэнт ЗША заклікаў да падтрымкі змагання за правы і свабоды ў Беларусі

Прэзідэнт ЗША Джордж Буш заклікаў падтрымаць змаганне за правы чалавека і свабоды ў Беларусі. Гэты заклік утрымліваецца ў лісце, які 7 верасня Буш накіраваў на адрас канферэнцыі правацэнтрысцкіх партыяў Цэнтральнай Еўропы, што праходзіла ў сталіцы Эстоніі – Таліне.

«Я заклікаю ўсіх удзельнікаў гэтай канферэнцыі падтрымаць тых людзей у Беларусі, якія дамагаюцца асноўных правоў чалавека і свабодаў, за якія змагаліся так шмат нацыяў і народаў», – напісаў прэзідэнт ЗША.

Буш адзначыў, што прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка і ягоная адміністрацыя рэгулярна чынілі перашкоды выбарчаму працэсу і пераследавалі апазіцыю.

У рэзалюцыі па выніках канферэнцыі кіраўнікі правацэнтрысцкіх партыяў цэнтральнаеўрапейскіх краінаў надалі шмат увагі Беларусі. Яны заклікалі беларускія ўлады выконваць свае абавязацельствы як члена Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ), у тым ліку датычна правядзення свабодных і справядлівых выбараў; стварыць незалежную камісію для расследавання знікненняў намесніка старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Віктара Ганчара, бізнесмена Анатоля Красоўскага, былога міністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранкі і журналіста Дзмітрыя Завадскага; стварыць клімат даверу, вызваліўшы палітычных вязняў; і спыніць псіхалагічны ціск на Кансультатыўнаназіральную групу АБСЕ ў Беларусі.

**Алесь АБРАМОВІЧ**

## Інтэрнэт быў пад кантролем

9 верасня каля 16 гадзінаў для беларускіх карыстальнікаў інтэрнэта былі заблакіраваныя сайты інфармацыйнай кампаніі «БелаПАН».

Карыстальнікі інтэрнэта ў Беларусі, запытваючы *belapan.com* і *http://belapan.elections.com*, атрымлівалі паведамленне аб адсутнасці доступу да гэтых інфармацыйных рэсурсаў. На думку *web*-адміністратара кампаніі «БелаПАН», найбольш верагоднай прычынай такой сітуацыі стала блакіроўка канкрэтных сайтаў на маршрутызатары правайдэра рэспубліканскага аб'яднання «Белтэлекам».

Між тым, як паведамляла грамадская ініцыятыва «Хартыя'97», блакіроўцы падвергліся і многія іншыя беларускія інтэрнэт-сайты. У прыватнасці, ніводзін беларускі сайт, які асвятляў выбары Беларусі ў рэжыме рэальнага часу, не быў даступны для карыстальнікаў з Беларусі.

Да заблакіраваных раней сайтаў Хартыі'97, Радыё Свабода, газеты НАША СВАБОДА, «Белорусской деловой газеты», «Белорусской газеты» дадаліся сайты грамадзянскай ініцыятывы «Незалежнае назіранне», якая займалася рассылкай інфармацыі аб маштабных парушэннях выбарчага заканадаўства, сайт Радыё Рацыя, сайт адзінага кандыдата ад шырокай грамадзянскай кааліцыі Ганчарыка.

Прыводзім спіс сайтаў, якія былі недаступныя з Беларусі ў час, калі праходзіла галасаванне:

www.charter97.org,
www.svaboda.com,
www.svaboda.org,
www.bdg.by,
www.vybory.bdg.by,
www.belapan.com,
www.elections.belapan.com,
www.dt.home.by,
www.racyja.pl,
www.irex.minsk.by,
www.spring96.org.

Як паказвае гэты спіс, нехта добра парупіўся, каб выбарчы працэс ахутвала цемра.

**Аляксей АРЭШКА**

## Распячатванне для падмены

Член участковай выбарчай камісіі № 46 у Першамайскім раёне горада Віцебска Галіна Магучая 7 верасня выявіла сляды распячатвання скрыні для датэрміновага галасавання — распячатвання незаконнага, паколькі праводзілася яно ў адсутнасць членаў выбарчай камісіі. У сувязі з гэтым Галіна Магучая звярнулася з заявай да старшыні камісіі. Даведаўшыся аб незаконным распячатванні скрыні, грамадскі назіральнік у раённай выбарчай камісіі Ада Баброва 7 верасня звярнулася з адпаведнай заявай да пракурора. Адзначыўшы, што дадзены выпадак падпадае пад дзеянне не толькі Выбарчага, але і Крымінальнага кодэкса, назіральнік папрасіла прыняць меры пракурорскага ўздзеяння. Яна не выключае, што пры распячатванні скрыні зроблена падмена бюлетэняў для галасавання.

**Леанід СІМАНАЎ**

ЛЮСТРАФАКТ




Фота IREX/ProMedia

На перадвыбарныя канцэрты ў падтрымку А.Лукашэнкі вазілі ўдава

## Міліцыя вымагала выкупу

У Кобрыне супрацоўнікі міліцыі прапанавалі старэйшаму брату выкупіць малодшага за 15 тысяч беларускіх рублёў і пляшку гарэлкі.

8 верасня ў Кобрыне, што на Брэстчыне, супрацоўнікі міліцыі затрымалі вучня 8 класа Заляшчука Віктара за перадвыбарную налепку «Время убирать». Хлопца завялі ў міліцыю і доўга запалохвалі тым, што адправяць у калонію для непаўнагадовых, увесь час пыталіся: «Дзе ўзялі налепкі?» Заляшчук адказаў, што даў незнаёмы хлопец на вуліцы. Допыт цягнуўся 5 гадзінаў, урэшце дазволілі патэлефанаваць старэйшаму брату. Калі з'явіўся брат, супрацоўнікі міліцыі прапанавалі яму выкупіць малога за 15 тысяч беларускіх рублёў і пляшку гарэлкі. Ніякіх пратаколаў пры гэтым складзена не было.

**Праваабарончы цэнтр «Вясна»**

УРНА

## Датэрміновае галасаванне па-за нормай

Старшыня Цэнтрвыбаркама Расійскай Федэрацыі Аляксандр Вешнякоў, які знаходзіцца ў Беларусі ў складзе групы назіральнікаў Асацыяцыі арганізатараў выбараў краінаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, у гутарцы з журналістамі заявіў, што нейкіх міжнародна-прававых абмежаванняў датэрміновага галасавання не існуе. У той жа час прырода гэтай працэдуры накіравана на стварэнне грамадзяніну магчымасці рэалізаваць сваё канстытуцыйнае права ўдзелу ў выбарах у тым выпадку, калі ён у дзень галасавання не можа быць на тым участку, да якога прыпісаны.

«Толькі ў такім выпадку гэтая норма сябе апраўдвае з пункту гледжання правоў чалавека, – лічыць Аляксандр Вешнякоў. – Калі ж гэтае палажэнне пачынае скажацца, то ўзнікаюць як мінімум пытанні...».

На думку кіраўніка Цэнтрвыбаркама Расійскай Федэрацыі, «зразумелым з'яўляецца маштаб у 3-5 працэнтаў датэрміновага галасавання. Калі гэта будзе нашмат больш (гутарка праходзіла да афіцыйнага аб'яўлення Цэнтрвыбаркамам Беларусі вынікаў датэрміновага галасавання – 14,3 працэнта. – **БелаПАН.**), то гэта цяжка вытлумачыць, хаця, напэўна, недзе тлумачэнне таксама будзе».

**Уладзімір ГЛОД**



## КДБ супраць спадарожніка

Беларускія спецслужбы чыняць перашкоды для працы замежных тэлежурналістаў, паведаміў выбарчы штаб кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Ганчарыка.

Паводле яго інфармацыі, удзень 9 верасня супрацоўнікі КДБ прыпынілі працу перасоўнага тэлевізійнага комплексу Еўрапейскага вяшчальнага саюза. З дапамогай разгорнутай ля гатэля «Беларусь» у Мінску спадарожнікавай устаноўкі тэлекампаніі планавалі перадаваць свае рэпартажы.

Штаб У.Ганчарыка паведамляе, што супрацоўнікі спецслужбаў запатрабавалі ў прадстаўнікоў СМІ ліцэнзію на працу ў Беларусі і, спаслаўшыся на яе адсутнасць, прыпынілі працу тэлевізійнага комплексу да панядзелка, 10 верасня. Хаця, згодна з паведамленнем, ліцэнзія была запатрабавана міністэрствам сувязі Беларусі, і ў выхадны дзень журналісты вярнуць яе не змаглі.

Такім чынам, для замежных журналістаў адзінай магчымасцю перадаваць рэпартажы аб апошніх падзеях у Беларусі засталося Беларускае тэлебачанне і тэлерадыёкампанія «Мір». Але ў апошніх няма тэхнічных магчымасцяў для арганізацыі вялікай колькасці «перагонаў». З гэтай нагоды праца большасці замежных тэлекампаніяў можа быць паралізаваная.

**Вольга АСІПЕНКА**

СПЕЦСЛУЖБЫ

## Начны вобшук у Гродне

Да 1-ай гадзіны ночы 9 верасня ў гродзенскай штаб-кватэры гарадской арганізацыі БНФ адбываўся вобшук. 6 супрацоўнікаў КДБ шукалі якогасьці кампрамату. Яны мелі ордэр з абласной пракуратуры. Вобшук працягваўся 2 гадзіны.

Гэты вобшук — апошні з шэрагу акцыяў застрашвання дэмакратычных сілаў з боку ўладаў. Перад тым органы арыштавалі 36-ты нумар газеты «Пагоня». Пракуратурай заведзеная справа «аб паклёпе» на Лукашэнку, знойдзеным у газетных публікацыях. У якіх — рэдакцыі не паведамілі. Па чыёйсьці камандзе быў спынены друкарскі варштат, а надрукаваны тыраж — 10.750 асобнікаў — быў пушчаны пад нож. Галоўны рэдактар М.Маркевіч лічыць, што акцыя была спланаваная КДБ.

Нумар павінен быў выйсці павялічаным тыражом у 88 тысяч паасобнікаў.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Дзяржкамдрукаўскі цэнзар

Беларуская асацыяцыя журналістаў (БАЖ) выказвае занепакоенасць «выпадкамі ўмяшання ў дзейнасць і парушэння прафесійнай самастойнасці рэдакцыяў» з боку кіраўніцтва мінскай друкарні «Мэджык». Пра гэта гаворыцца ў заяве БАЖ, якая адрасаваная першаму намесніку старшыні Дзяржкамітэта па друку, выконваючаму абавязкі дырэктара прадпрыемства «Мэджык» У.Глушакову.

Адбылося некалькі падзеяў, якія сведчаць аб здзяйсненні ім «цэнзуры і парушэнні прафесійнай самастойнасці рэдакцыяў».

Так, 28 жніўня быў сарваны выпуск газеты «Рабочы», а 31 жніўня з «белымі плямамі» выйшлі два спецвыпускі «Предпринимательской газеты». Як сцвярджае БАЖ, матэрыялы з газет былі знятыя непасрэдна па ўказанні Глушакова. Акрамя таго, 5 верасня ён «пад пагрозай забароны друкавання тыражу» патрабаваў зняць некаторыя матэрыялы з нумароў газет «Народная воля» і «Беларуская маладзёжная».

**Юрый ПАЦЁМКІН**

## Парушэнні на карысць «трэцяга кандыдата»

«Гэтыя выбары падобныя на рэферэндум 1996 года, – сказала карэспандэнту БелаПАН назіральнік пры выбарчай камісіі Маскоўскага раёна Брэста Ніна Чарановіч. – Мы фіксуем падобныя парушэнні».

Яна расказала, што на працягу некалькіх дзён на рынку, у магазінах горада, у грамадскім транспарце гучалі аб'явы з заклікам галасаваць датэрмінова. «Калі б у іх былі словы, што датэрмінова галасаваць варта ісці тым, хто не зможа прыйсці на ўчастак 9 верасня, то мы б прэтэнзіяў не мелі, – зазначыла Н.Чарановіч. – Але на просьбу «ўставіць» гэтыя словы абласная камісія па выбарах не прарэагавала».

Назіральнік таксама зазначыла, што 9 верасня на многіх участках вісяць узоры запаўнення бюлетэняў, на якіх пазначаны трэці кандыдат. Гэта, на думку Чарановіч, можа паўплываць на выбаршчыка і ён аўтаматычна паставіць знак у клетачцы насупраць трэцяга кандыдата, гэта значыць Аляксандра Лукашэнкі. Чарановіч расказала, што яна заявіла аб недапушчальнасці размяшчэння такіх узораў на ўчастках у пракуратуру. Там з ёю пагадзіліся, аднак узоры зняты не былі.

Ніна Чарановіч таксама паведаміла, што ёй як назіральніку не прадастаўляюць звесткі аб ходзе выбараў у Маскоўскім раёне горада. «Старшыня камісіі гаворыць, каб я пісала акты, – абураецца яна. – Для яго, відаць, яны не страшныя. Ён больш баіцца аслухацца загадаў «зверху».

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

## «Вясну» адхілілі ад назірання

Цэнтрвыбаркам адмяніў акрэдытацыі назіральнікаў за прэзідэнцкімі выбарамі, вылучаныя праваабарончым цэнтрам «Вясна».

На думку ЦВК, «Вясна» сфальсіфікавала пратаколы аб вылучэнні сваіх назіральнікаў. У прыватнасці, як адзначалася на паседжанні, па ўсёй Беларусі «гуляюць» пратаколы аб вылучэнні назіральнікаў з пячаткай «Вясны», у якіх не ўказаныя прозвішчы саміх назіральнікаў. Кіраўнік «Вясны» Алесь Бяляцкі назваў прадстаўленыя на паседжанні камісіі матэрыялы «правакацыяй». Бяляцкі звязаў гэта з тым, што «Вясна» выставіла на выбары некалькі тысяч назіральнікаў. Выключэнне іх з назірання паставіць пад сумненне легітымнасць выбараў.

**Юрый ПАЦЁМКІН**

РЭПРЭСІІ

## Затрыманы выканаўчы дырэктар БАРЦ

Каля 18.30 9 верасня на кантрольна-прапускным пункце воінскай часці ўнутраных войскаў на вуліцы Маякоўскага ў Мінску затрыманы выканаўчы дырэктар Беларускай асацыяцыі рэсурсных цэнтраў (БАРЦ) Алесь Казак. Ён выехаў у воінскую часць для праверкі інфармацыі аб тым, што некалькі машын са служачымі ўнутраных войскаў гатовы па загадзе выехаць на Кастрычніцкую плошчу, дзе адзіны кандыдат у прэзідэнты ад шырокай грамадзянскай кааліцыі Уладзімір Ганчарык у 20.05 збіраецца сустрэцца з выбаршчыкамі Мінска. Алесь Казак паспеў пацвердзіць інфармацыю пра тое, што 20 машын гатовы па першым загадзе выехаць на Кастрычніцкую плошчу, пасля чаго быў затрыманы на КПП.

**Міхаіл ЛАЎРОЎ**

СІЛА

## Пад выбары ў Мінск сцягнулі войскі

Паводле звестак, распаўсюджаных незарэгістраванай арганізацыяй Малады Фронт, у Мінск напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў з усіх рэгіёнаў краіны сцягвалі калоны з салдатамі ўнутраных войскаў. Афіцэраў гэтых падраздзяленняў возілі на аўтобусах па Мінску для вывучэння мясцовасці.

З усіх абласных цэнтраў, дзе пакінулі толькі крытычныя аб'ёмы, апошнімі днямі ў Мінск былі перавезеныя запасы крыві са станцыяў пералівання крыві.

**Язэп ВЕРБНІЧ**

ГАЛАСЫ

## Незаконныя выбарцы

Беларускі Хельсінкскі камітэт (БХК) лічыць неканстытуцыйным удзел у выбарах прэзідэнта асобаў, якія не з'яўляюцца грамадзянамі Беларусі.

Так БХК пракаменціраваў рашэнне Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў ад 8 верасня, згодна з якім выбаршчыкі могуць галасаваць пры прад'яўленні не толькі пашпарта, але і любога іншага дакумента, што сведчыць асобу (студэнцкі білет, пенсійнае пасведчанне і да т.п.).

Прыняцце такога рашэння, адзначае БХК, не знаходзіцца ў кампетэнцыі Цэнтрвыбаркама і супярэчыць частцы 1 артыкула 52 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Уключэнне дакументаў, якія не змяшчаюць звестак аб грамадзянстве, у пералік пасведчанняў асобы, пры прад'яўленні якіх дазваляецца галасаванне, вядзе да найгрубейшага парушэння правоў грамадзянаў. Паводле звестак БХК, у Беларусі часова або пастаянна жывуць больш за 300 тысяч асобаў, што не з'яўляюцца грамадзянамі Рэспублікі Беларусь. Частка з іх унесеная ў спісы выбаршчыкаў і атрымала запрашэнні ўдзельнічаць у выбарах.

**Вольга АСІПЕНКА**

# Хроніка «датэрміновага» беззаконня

*Працяг, пачатак на стар.1*

У прыватнасці, на адным з участкаў назіральніку ад БНФ «Адраджэньне» забаранілі весці падлік колькасці прагаласаваўшых датэрмінова грамадзянаў. На ўчастку № 21, які месціцца ў ваенным шпіталі, адсутнічаў журнал для рэгістрацыі назіральнікаў. Паводле словаў назіральніка ад праваабарончага цэнтра «Вясна» Ірыны Салей, яе прозвішча запісалі на ліст паперы, і цяпер яна не ведае, ці дапусцяць яе на ўчастак для галасавання ў наступныя дні.

Тым часам, старшыня **Гродзенскага** аблвыканкама У.Саўчанка заклікаў студэнтаў і выкладчыкаў трох гродзенскіх ВНУ галасаваць за А.Лукашэнку. Сустрэча адбывалася ў Гродзенскім мэдычным універсітэце.

**Магілёў**

Каардынатар абласнога штаба незалежнага назірання Аляксей Колчын паведаміў радыё «Рацыя», што ўжо ў першы дзень было зафіксавана шмат парушэнняў. Першае назіранне, самае яскравае, — пачынаюць заганяць на выбарчыя ўчасткі на датэрміновае галасаванне навучэнцаў прафтэхвучылішчаў і студэнтаў. На тых участках, дзе пражываюць гэтыя выбаршчыкі, ідзе вельмі актыўнае датэрміновае галасаванне. Ёсць звесткі з некаторых участкаў, напрыклад, з сярэдняй школы №3 Магілёва — студэнты галасавалі не па пашпартах, а па студэнцкіх білетах. У Магілёўскім палітэхнікуме галасаванне пачалося нават не чацвёртага, а першага верасня. Там намесніца дырэктара па выхаваўчай працы спадарыня Шусцікава на нарадзе куратараў паведаміла, што студэнты павінны галасаваць датэрмінова, і зрабіць гэта трэба 1 верасня — раней нават за датэрміновае галасаванне. У гэтым жа тэхнікуме загадчыца аддзела выхаваўчай працы Валянціна Ляўкова актыўна зганяла навучэнцаў на выбарчы ўчастак.

На заводзе «Трансмаш» распаўсюджаная разнарадка дырэктара Чарткова: з кожнага цэха штодня мусіла быць накіравана для датэрміновага галасавання па 15 чалавек. Гэта паведамілі рабочыя завода. Вываз людзей на выбарчыя ўчасткі арганізоўваўся адміністрацыяй: а чацвёртай, а пятай гадзіне падганяліся аўтобусы да прахадной — і людзі развозіліся для датэрміновага галасавання.

У **Магілёве** нарадам міліцыі былі затрыманыя маладыя людзі, якія былі апранутыя ў майкі з перадвыбарнымі лозунгамі — «За новую Беларусь», «Скажы дураку нет!». Прозвішчы затрыманых: Сапрыкін, Гусеў, Талмачоў, паведамляе праваабарончы цэнтр «Вясна».

**Магілёўская вобласць**

Намеснік старшыні **Кіраўскага** райвыканкама старшыня штаба па падрыхтоўцы выбараў прэзідэнта Л.Смагін у прысутнасці старшыні РАНА А.Коршака запалохваў выкладчыкаў Л.Горбаля і К.Шаматранава звальненнем з працы і зніжэннем заробку. Абодва выкладчыкі з'яўляліся незалежнымі назіральнікамі.

**Мінск**

Адбылася сустрэча дзейнага кіраўніка дзяржавы з «выбаршчыкамі». Каля дзвюх з паловай тысяч чалавек спецыяльна дастаўленыя з розных рэгіёнаў краіны ў Мінск. Адкрываючы сход, Лукашэнка падкрэсліў, што гэта не сустрэча з кандыдатам у прэзідэнты, а «жорсткі экзамен» улады перад народам. Ён заявіў, у прыватнасці, што Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай (ФПБ) даўно трэба было «паставіць на месца» свайго лідэра Уладзіміра Ганчарыка. Паводле яго словаў, Ганчарыка трэба было адправіць на заслужаны адпачынак адразу пасля таго, як ён дасягнуў пенсійнага ўзросту.

4 верасня актывісты Маладога Фронту распачалі кампанію па назіранні за датэрміновым галасаваннем у **мінскіх** ВНУ. У прыватнасці, некалькі маладафронтаўцаў знаходзіліся ў выбарчым участку № 9, размешчаным у Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі. Яны звярнулі ўвагу, што міліцыянер, які там дзяжурыў, рэгулярна тэлефанаваў і паведамляў камусьці аб колькасці тых, хто прагаласаваў датэрмінова, хаця старшыня камісіі адмовіўся паведаміць назіральнікам гэтыя звесткі. Акрамя таго, на ўчастак зайшлі дзве жанчыны, якія, не заўважыўшы назіральнікаў, сказалі, што «паступіла ўказанне зрабіць карэкціроўку». Аднак яны не закончылі фразу да канца. Старшыня камісіі прыпыніў іх, і яны адышлі для завяршэння размовы. Што за «карэкціроўку» неабходна правесці, старшыня камісіі патлумачыць адмовіўся. Вечарам маладафронтаўцы разбілі палатку для кругласутачнага назірання побач з выбарчым участкам. Аднак пад націскам аховы яны вымушаныя былі пакінуць тэрыторыю акадэміі. Актывісты «МФ» паставілі палатку каля ўваходу, на вуліцы Дарашэвіча, пад вокнамі выбарчага ўчастка. Паводле іх словаў, нягледзячы на завяршэнне галасавання, там знаходзіліся людзі і вялася нейкая праца.

На выбарчым участку №75 Заводскага раёна **Мінска** бюлетэнь запаўняўся выбаршчыкам на стале ў старшыні выбарчай камісіі А.Міхайлава, бо на ўчастку адсутнічалі кабіны для патаемнага галасавання.

**Мінская вобласць**

Старшыня **Дзяржынскага райвыканкама** Ткачоў абавязаў механізатараў і даярак галасаваць датэрмінова, паведамляе «Незалежнае назіранне». Старшыня калгаса «Луч» **Капыльскага раёна** Аляксандр Вусін даў такое ж указанне ўсім калгаснікам. У калгасе імя Гастэла **Мінскага раёна ў** першы дзень датэрміновага галасавання ўжо нават хадзілі з выбарчымі урнамі па хатах, заклікаючы людзей галасаваць датэрмінова.

Прадстаўнікі Фонду імя Льва Сапегі на адным з выбарчых участкаў зафіксавалі грубае парушэнне Выбарчага кодэкса. Урны для галасавання былі апячатаныя ў адсутнасць выбаршчыкаў і такім чынам, што пры адкрыцці злепак пячаткі не парушаўся.

Фота Ул.ШЛАПАКА

# Працяг хронікі беззаконня

## *5 верасня*

**Мінск**

Са спазненнем быў надрукаваны наклад незалежнай газеты «Народная воля». Як паведаміў БелаПАН намеснік галоўнага рэдактара газеты Аляксандр Сіліч, выконваючы абавязкі дырэктара друкарні «Мэджык» — намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта па друку Уладзімір Глушакоў — забараніў друкаваць газету, на першай старонцы якой быў перадвыбарны калаж «Лукашэнка — гэта мінулае, Ганчарык — гэта будучае». Забарона была знятая толькі пасля таго як калаж быў заменены анонсам «гарачай лініі» з кандыдатам у прэзідэнты Уладзімірам Ганчарыкам. Акрамя таго, па словах Сіліча, Глушакоў «падверг цэнзуры» спецвыпуск газеты, прысвечаны маючым адбыцца выбарам. Гэта ўжо не першы выпадак умяшання Глушакова ў працэс друкавання незалежных выданняў. У прыватнасці, 28 жніўня ў «Мэджыку» была арыштаваная частка накладу спецвыпуску газеты «Рабочы», таксама прысвечанага выбарам кіраўніка дзяржавы.

Супрацоўнікі рэдакцыі «Беларускай маладзёжнай», якая таксама друкуецца ў «Мэджыку», тройчы здавалі ў друк нумар сваёй газеты. Зранку таго ж дня Уладзімір Глушакоў не дазволіў выпускаць газету з-за перадвыбарнага калажу на першай старонцы. На адным з двух пастаўленых побач фотаздымкаў быў партрэт Аляксандра Лукашэнкі з аўтаматам у руках. Кадр быў зроблены падчас нядаўніх вучэнняў «Нёман-2001». На іншым здымку – дзеці. Рэдакцыя зняла спрэчныя фотаздымкі, пакінуўшы на іх месцах «белыя плямы». Друкарня ўзяла макет у працу і нават вырабіла пласціны, пасля чаго працэс быў спынены, і рэдакцыі паведамілі, што газета з «белымі плямамі» не выйдзе ўвогуле. Толькі пасля таго, як рэдакцыя «Беларускай маладзёжнай» зноў змяніла макет, У.Глушакоў даў дазвол на друк.

5 верасня ў газеце Адміністрацыі прэзідэнта «Советская Белоруссия» паўторна апублікаваная перадвыбарная праграма Аляксандра Лукашэнкі. Як указана ў зыходных звестках, газета выйшла накладам 629.316 асобнікаў, у той час як звычайны наклад «СБ» складае каля 350 тысяч асобнікаў. Раніцай згаданай газеты ў кіёсках «Белсаюздруку» купіць было немагчыма. У рэдакцыі «СБ» БелаПАН паведамілі, што гэта звязанае з арганізацыйнай накладкай. Аднак многія мінчане, якія не з'яўляюцца падпісчыкамі газеты, знайшлі гэты нумар у сваіх паштовых скрынях.

Дэканаты БДУ, БДЭУ, БДПА, а таксама Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі абавязалі студэнтаў «выканаць свой канстытуцыйны доўг» як мага раней – нібыта з прычыны адпраўкі іх на сельскагаспадарчыя працы. Такія ж патрабаванні пачулі ад свайго кіраўніцтва супрацоўнікі Мінскага галоўпаштамта, 120-й мотастралковай дывізіі і 72-га вучэбнага цэнтра, якія дыслакуюцца ў мікраараёне Уручча і ў Барысаве. Тым, хто пражывае ў інтэрнаце ВА «Палімір» па адрасе вул. Асаналіева, 48, камендант «раіў» наведаць выбарчыя ўчасткі, а потым адзначыцца ў ягоным спісе.

**Віцебская вобласць**

Радыё «Рацыя» паведамляе, што ў некаторых вёсках **Полацкага раёна** тым, хто прыходзіць галасаваць датэрмінова, непасрэдна каля выбарчай скрынкі наліваюць па сто грамаў гарэлкі. Па непацверджаных звестках, на адным такім участку, датэрмінова выканаўшы свой абавязак выбаршчыка, жадаючыя «дагнацца» новай порцыяй ледзьве не збілі выбарчую камісію, у якой скончылася гарэлка.

Старшыня Аршанскага райвыканкама Уладзімір Адашкевіч правёў нараду з супрацоўнікамі выканкама і вусна загадаў усім, хто ўдзельнічае ў працы выбарчых камісіяў, агітаваць за А.Лукашэнку і «не баяцца нікога». Ён накіраваў супрацоўнікаў бухгалтэрыі аддзела адукацыі ў рабочы час у вёску, каб агітаваць за кіраўніка дзяржавы. Такія ж загады атрымалі штатныя супрацоўнікі сельсаветаў.

У рабочы час супрацоўнік выканкама г. Барань Ірына Міхневіч расклейвала ўлёткі без выходных дадзеных з карыкатурнымі матэрыяламі на супернікаў А.Лукашэнкі.

Намеснік старшыні Навапалацкага гарвыканкама Святлана Турунок дала ўказанне кіраўнікам прадпрыемстваў горада забяспечыць 100%-ю яўку супрацоўнікаў на датэрміновае галасаванне і патрабавала прадставіць спісы тых, хто галасуе.

**Гомельская вобласць**

У **Рэчыцы** заведзеная крымінальная справа па арт. 367 Крымінальнага кодэкса РБ (паклёп у адносінах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, які ўтрымліваецца ў публічным выступленні альбо ў друкаваным, альбо публічна дэманстраваным творы, альбо ў сродках масавай інфармацыі). Па гэтай справе была затрыманая Наталля Брэль – сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі, паведаміў праваабарончы цэнтр «Вясна». Арт. 367 Крымінальнага кодэкса РБ (паклёп у адносінах да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь) прадугледжвае адказнасць у выглядзе штрафу альбо папраўчых працаў на тэрмін да двух гадоў, альбо абмежаванне свабоды на тэрмін да 4 гадоў, альбо пазбаўленне волі на той жа тэрмін).

**Гродна**

Пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу супраць незалежнай газеты «Пагоня». Прыкладна ў 20.00 супрацоўнікі Гродзенскай пракуратуры, Ленінскага аддзялення РАУС і фінансавай міліцыі пачалі выманне матэрыялаў і абсталявання ў рэдакцыі гродзенскай газеты «Пагоня», паведаміла прэс-служба БАЖ. Мясцовая пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу па факце паклёпу на прэзідэнта ў нумары газеты, які быў надрукаваны ў той жа дзень і яшчэ знаходзіўся ў друкарні. У 21.00 у рэдакцыі знаходзіліся 7 супрацоўнікаў органаў. Быў канфіскаваны сістэмны блок камп'ютэра для вёрсткі.

На ўчастку №121 у **Гродне** назіральнік ад Свабоднага прафсаюза стаў сведкам, як старшыня ўчастковай камісіі дакладвала па тэлефоне ў тэрытарыяльную камісію не толькі пра тое, колькі чалавек узялі ўдзел у датэрміновым галасаванні, але і пра вынікі галасавання. Як вядома, паводле закона, ускрыццё выбарчых скрыняў дазволенае толькі пасля заканчэння выбараў.

На прадпрыемстве «Хімвалакно» майстар аднаго з участкаў патрабаваў ад усіх рабочых прыйсці на наступны дзень на працу з пашпартамі. Усе ЖЭСы Гродна атрымалі каманду – усім работнікам прагаласаваць датэрмінова.

Ва ўсе паштовыя аддзяленні Гродна былі завезеныя па 1.000 асобнікаў газеты «Советская Белоруссия» з прапагандысцкімі матэрыяламі А.Лукашэнкі. Паштальёны мусілі раскідаць усе гэтыя асобнікі бясплатна.

Як паведаміла радыё «Рацыя», у сераду ў Гродне адбылося паседжанне абласной тэрытарыяльнай камісіі. Яе старшыня афіцыйна паведаміў, што ў вобласць было завезена 500.000 бюлетэняў – а выбаршчыкаў толькі 453.000. Пасля гэтага ўсе журналісты былі выдаленыя з залі паседжанняў.

У 23.00 цэлае аддзяленне АМАПа прыехала ў рэдакцыю недзяржаўнай газеты «Биржа информации» (**Гродна**). Міліцыянты заявілі, што яны правяраюць – ці не друкуюцца там антыпрэзідэнцкія ўлёткі. АМАПаўцы правялі агляд памяшкання, пераканаліся, што ўлётак няма, і з'ехалі.

У **Іўеўскім раёне** (**Гродзенская вобласць**) быў звольнены з працы ляснік Уладзімір Страта, які ўзяў удзел у незалежным назіранні.

**Магілёў**

У **Магілёўскім** дзяржаўным універсітэце да рэктара А. Радзькова былі выкліканыя старасты групаў. Рэктар загадаў ім забяспечыць 100%-ю яўку на датэрміновае галасаванне тых студэнтаў, што жывуць у інтэрнатах. Старасты таксама атрымалі загад скласці спісы студэнтаў, у якіх адзначыць насупраць кожнага прозвішча – прагаласаваў ён ці не.

**Магілёўская вобласць**

У райцэнтры **Клімавічы** старшыня райвыканкама збіў кіраўніка раённай групы незалежнага назірання за выбарамі. Як перадало радыё «Рацыя», назіральнік Васіль Васільчанка наведаў райвыканкам, каб удакладніць некаторыя моманты працы мясцовых выбарных камісіяў ды ўзгадніць пэўныя моманты працэдуры назірання. Але яго сустрэў старшыня райвыканкама Уладзімір Канавалаў і без аніякіх тлумачэнняў нанёс некалькі ўдараў. У выніку ў В.Васільчанкі было пабітае вуха, ён атрымаў некалькі сінякоў. Цікава, што зусім нядаўна сп. Канавалаў ужо меў «непрыемнасці» з сям'ёй Васільчанкаў. 26 жніўня У.Канавалаў затрымаў жонку В.Васільчанкі Галіну на вуліцы падчас раздачы буклетаў з партрэтам У Ганчарыка. Ён гвалтоўна пасадзіў жанчыну ў сваю «Волгу» і адвёз у пастарунак. Там ёй пагражалі адміністратыўнай справай. У выніку Г.Васільчанка апынулася ў шпіталі.

У вёсцы Сакольнічы **Крычаўскага** раёна на выбарчым участку №18 былі адзначаныя пагрозы назіральнікам. Так, дахаты да адной назіральніцы зайшлі два чалавекі і патрабавалі больш не наглядаць, бо «гэта можа кепска для яе скончыцца», паведамляе прэс-служба «Незалежнага назірання».

**Мінская вобласць**

У **Бярэзінскім раёне** праведзеная нарада з супрацоўнікамі выканкама і старшынямі выбарчых камісіяў. Перад імі была пастаўленая задача – забяспечыць у кожны дзень датэрміновага галасавання «прырост» у 10% грамадзянаў. Старшыня раённага выканкама сп. Карпейчык даў прамое ўказанне старшыням калгасаў, прадпрыемстваў, школаў забяспечыць датэрміновае галасаванне, прыгразіўшы звальненнем з працы.

Аблвыканкамы яшчэ 2 верасня перадалі раённым «вертыкальшчыкам» указанне штодня да 19.00 рапартаваць пра колькасць грамадзянаў, якія ўзялі ўдзел у датэрміновым галасаванні.

У адным з **валожынскіх** інтэрнатаў вісела запіска: «Уважаемые жильцы общежития, прошу всех проголосовать с 4.09 по 9.09. можно досрочно с 10.00 до 14.00 и с 16.00 до.19.00. Желающих могут свозить. Обращаться в ком. № 18. Комендант». На ўчастку №39 у вёсках Янаўшчына і Гілікі з урнамі для галасавання хадзілі члены выбарчай камісіі. На 15.00 5 верасня такім чынам прагаласавала 27 чалавек.

Старшыня Івянецкага райвыканкама (**Валожынскі раён**) У.Малішэўскі сабраў кіраўнікоў мясцовых прадпрыемстваў у Доме культуры ў Івянцы. Па словах прысутных там было дадзенае ўказанне забяспечыць 10-15% прагаласаваўшых у дзень.

У **Чэрвені** міліцыя затрымала раённага каардынатара «Незалежнага назірання» Генадзя Матусевіча. Гэта адбылося на Мінскім выбарчым участку №1, што знаходзіцца ў Чэрвеньскім ПТУ №80 будаўнікоў. У РАУСе, куды быў дастаўлены назіральнік, яго абшукалі і дапыталі, паведамляе ПЦ «Вясна». У яго канфіскавалі некалькі асобнікаў «Звароту да супрацоўнікаў МУС», што былі знойдзеныя ў сумцы Г.Матусевіча. Праз тры гадзіны назіральніка адпусцілі.

5 верасня Галоўнае ўпраўленне грамадска-палітычнай інфармацыі адміністрацыі прэзідэнта накіравала па каналах афіцыйнага агенцтва БелТА адмысловае паведамленне для рэдактараў абласных газетаў. У ім кіраўнікам выданняў настойліва «раяць» перадрукаваць у найбліжэйшых нумарах чарговы хвалебны артыкул пра А.Лукашэнку з «Советской Белоруссии». У прыватнасці, рэдактарам прапаноўваюць перадрукаваць артыкул «Праграма прэзідэнта – праграма для народа».

*Працяг на стар.4*

# Працяг хранічнага беззаконня

### 6 верасня

**Мінск**

«З надзейных крыніцаў паступілі звесткі аб падрыхтоўцы органамі выканаўчай улады шырокамаштабнай фальсіфікацыі вынікаў выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на карысць А.Р.Лукашэнкі, фактычна рыхтуецца гвалтоўны захоп улады». Так гаворыцца ў распаўсюджаным 6 верасня паведамленні для прэсы першага сакратара ЦК ПКБ Сяргея Калякіна — даверанай асобы кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Ганчарыка. Пра гэта паведаміла агенцтва БелаПАН.

Калякін паведаміў, што 4-5 верасня старшыням райвыканкамаў і кіраўнікам раённых адміністрацыяў выдадзена па 20 тысяч запасных бюлетэняў для галасавання. 5 верасня пад кіраўніцтвам старшыні Мінскага аблвыканкама Дамашкевіча адбылася нарада з намеснікамі старшыняў райвыканкамаў вобласці, кожны з якіх пад распіску атрымаў пакет са схемай фальсіфікацыі вынікаў галасавання. Прадугледжвалася, што на датэрміновае галасаванне павінна было штодзённа накіроўвацца каля 8% выбаршчыкаў з тым, каб давесці працэнт прагаласаваўшых датэрмінова да 40; пры замене бюлетэняў пераважна будзе адкрывацца дно скрыні.

Паводле звестак Калякіна, усяго па Мінскай вобласці планавалася замяніць 560 тысяч бюлетэняў, і з улікам тых, хто прагаласуе за Лукашэнку 9 верасня, вынік па Мінскай вобласці павінен быць не менш за 78 працэнтаў на яго карысць. «Пастаўлена задача: Лукашэнка А.Р. павінен спаць спакойна ў ноч з 8 на 9 верасня, — сцвярджаў Калякін. — Ужо 8 верасня яму павінны паведаміць, што перамога забяспечаная».

Лідэр ПКБ паведаміў таксама, што 5 верасня намеснікам кіраўніка адміністрацыі Савецкага раёна Мінска Іконнікавым «праведзеная нарада са старшынямі ўчастковых выбарчых камісіяў, падчас якой, у прыватнасці, вызначаныя кантрольныя лічбы, на якія павінны выйсці камісіі пры падвядзенні вынікаў выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь». «За Лукашэнку А.Р. павінна быць паказана не менш за 50 працэнтаў галасоў выбаршчыкаў, — інфармаваў Сяргей Калякін. — Механізм дасягнення гэтага выніку — перакіданне часткі бюлетэняў, пададзеных за Ганчарыка У.І. і Гайдукевіча С.В., на карысць Лукашэнкі А.Р. Кожнаму старшыні ўчастковай камісіі была пастаўленая задача здаць у адміністрацыю раёна па 400 чыстых бюлетэняў, падпісаных двума членамі камісіі».

Старшыня ўчастковай камісіі №19 Уладзімір Жараў дапусціў прысутнасць на выбарчым участку дырэктара фінансава-эканамічнага каледжа Аляксандра Калінкі. Той прымушаў выбаршчыкаў, якія жывуць у інтэрнаце №1 на вул. Кульман, да ўдзелу ў датэрміновым галасаванні. Пры гэтым А.Калінка пагражаў высяленнем з інтэрната, паведамляе прэс-служба «Незалежнага назірання».

Каля Дома афіцэраў было затрымана больш за 10 чалавек – удзельнікаў акцыі, арганізаванай Аб'яднанай грамадзянскай партыяй. Маладыя людзі раздалі свежы спецвыпуск газеты «Беларуская младзёжная». Затрыманыя дастаўленыя ў ГАМ Ленінскага раёна на вул. Леніна.

Лідэр Маладога Фронту Павел Севярынец быў выкліканы ў Камітэт дзяржаўнай бяспекі Беларусі для допыту ў сувязі з выбухам, які адбыўся на тэрыторыі пасольства Расіі ў Мінску 30 траўня. Допыт цягнуўся больш як 8 гадзінаў з перапынкам на абед. У інтэрв'ю БелаПАН Павел Севярынец паведаміў, што па заяўленай тэме допыту — выбух на тэрыторыі расійскага пасольства — следчыя пытанняў амаль не задавалі. Намнога больш іх цікавіла асоба самога Севярынца, дзейнасць Маладога Фронту, перадвыбарныя мерапрыемствы і г.д

**Віцебская вобласць**

Іншы назіральнік ад Хельсінкскага камітэта, Васіль Берасneў распавёў, што 5 верасня старшыня Аршанскай гарадской выбарчай камісіі П.Сіянін, ён жа – кіраўнік справамі гарвыканкама, без прычыны некалькі разоў ударыў кулаком назіральніка А.Шутава. Назіральнік быў акрэдытаваны пры тэрытарыяльнай камісіі і меў неасцярожнасць пацікавіцца колькасцю выбаршчыкаў, якія ўжо прагаласавалі.

**Гомель**

Назіральнік ад БХК Алесь Яўсеенка паведаміў, што на сустрэчы з абласным апаратам УУС намеснік міністра ўнутраных справаў палкоўнік Леанід Глухоўскі заявіў, што асабісты састаў мусіць прагаласаваць «датэрмінова і правільна». Правільнасць будзе кантраляваць КДБ, сказаў ён.

Назіральнік ад грамадскага праваабарончага аб'яднання «Вясна» Віталь Макаранка быў адхілены ад назірання за ходам выбараў старшынёй камісіі выбарчага ўчастка № 20 Навабеліцкага раёна Гомеля Жаннай Будрык. Як паведаміў БелаПАН Віталь Макаранка, 31 жніўня ён быў зарэгістраваны на гэтым выбарчым участку ў якасці назіральніка і два дні — 4 і 5 верасня — вёў назіранне за датэрміновым галасаваннем. Паводле словаў Макаранкі, ён зафіксаваў некалькі парушэнняў. Па-першае, члены камісіі адмовілі яму ў праве азнаёміцца са спісам выбаршчыкаў, зарэгістраваных на ўчастку, а таксама адмовіліся паведаміць колькасць выбаршчыкаў, якія прынялі ўдзел у датэрміновым галасаванні. Па-другое, на ноч урна з бюлетэнямі не апячатвалася.

Паводле словаў Макаранкі, першая сустрэча са старшынёй участковай камісіі ў яго адбылася толькі 6 верасня. Канфлікт пачаўся з таго, што Макаранка, які прыйшоў на ўчастак у 9 гадзінаў 55 хвілінаў (за пяць хвілінаў да яго афіцыйнага адкрыцця), убачыў, што галасаванне ўжо ідзе. Яшчэ больш, ён убачыў, што сакратар камісіі Юлія Грамыка выдала жанчыне, якая прыйшла галасаваць, бюлетэнь, але дакументальна не засведчыла яе асобу. Аднак старшыня камісіі Жанна Будрык адрэагавала на заўвагі своеасабліва, заявіўшы, што Макаранка не мае паўнамоцтваў назіральніка. Спасылкі апошняга на ўласную рэгістрацыю на гэтым участку, а таксама на нарматыўныя двакументы Цэнтрвыбаркама і пратакол вылучэння яго назіральнікам ад праваабарончай арганізацыі «Вясна» вынікаў не далі. Віталь Макаранка паведаміў, што старшыня адышла на 10 хвілінаў, а вярнуўшыся, заявіла, што тэлефанавала начальству і ёй загадана назіральніка «не пускаць». Пры гэтым, са словаў Макаранкі, старшыня камісіі адмовілася матываваць сваё рашэнне ў пісьмовай форме.

Позна ўвечары 6 верасня супрацоўнікі міліцыі аддзела ўнутраных справаў Чыгуначнага раёна правялі вобыск у офісе гомельскага аддзялення арганізацыі «Зубр», якая не мае афіцыйнай рэгістрацыі. Як стала вядома БелаПАН, пасля 20 гадзінаў міліцыянеры шляхам падману ўвайшлі ў кватэру, якую ўзялі ў арэнду «зубры», і пачалі вобыск. У гэты час у офісе знаходзіліся некалькі маладых людзей. Вобыск працягваўся практычна да поўначы. А затым міліцыянеры пайшлі, узяўшы з сабой камп'ютэр, прынтэр, капіравальны апарат, каля 1 тысячы налепак з выявай бел-чырвона-белага сцяга і герба «Пагоні», аўдыёкасеты і 12 балончыкаў фарбы. Таксама была канфіскаваная вялікая колькасць маек з лозунгамі «Барані сваё!» і «Хочам ведаць праўду», з выявамі зніклых без вестак Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Дзмітрыя Завадскага, Юрыя Захаранкі. Наколькі вядома, міліцыя не прадставіла ніякай санкцыі на правядзенне вобыску.

**Гродна**

Выхаванцы інтэрната N114 і студэнты Гродзенскага медычнага універсітэта былі прыведзеныя на выбарчыя ўчасткі шэрагамі пад «канвоем» выхавальнікаў і выкладчыкаў.

**Гродзенская вобласць**

На ўчастку №17 Воранаўскага раёна назіральнікі былі выдаленыя пасля таго, як указалі членам камісіі на тое, што урна для галасавання апячатаная не па правілах. У Слоніме карэспандэнт недзяржаўнай «Газеты Слонімскай» Анатоль Стручынскі быў выстаўлены з участка №18 прапаршчыкам міліцыі Цітовым. Пры гэтым была ўжытая фізічная сіла.

**Магілёў**

На выбарчым участку №8 (СШ №35) падчас датэрміновага галасавання сябры камісіяў раздавалі выбаршчыкам разам з бюлетэнем для галасавання агітацыйны матэрыял – газэту «Веснік Магілёва» (№70 ад 06.09.2001 г.), якая ўтрымлівае прамыя заклікі галасаваць за Аляксандра Лукашэнку.

Камендант інтэрната №1 завода «Магілёўтрансмаш» (г. Магілёў, вул. Крупскай, 182) прымушаў жыхароў інтэрната прымаць удзел у датэрміновым галасаванні, атрымоўваючы дадзеныя аб непрагаласаваўшых ад участковай камісіі ўчастка № 24, да якога замацаваны інтэрнат.

На ўчастку для галасавання №140 г. Магілёва камендант інтэрната прафесыйна-тэхнічнай вучэльні № 237 пад пагрозай высялення з інтэрната патрабуе, каб навучэнцы галасавалі за А.Лукашэнку, зрывае з інфармацыйнага стэнду інфармацыю пра іншых кандыдатаў.

Каля 80 чалавек, якія маюць адносіны да выбарчай кампаніі кандыдата ў прэзідэнты Беларусі Уладзіміра Ганчарыка, былі па тых ці іншых прычынах затрыманыя падчас агітацыі ў Магілёве. Так, напрыклад, 6 верасня некалькі членаў штаба былі затрыманыя работнікамі міліцыі падчас распаўсюджвання агітацыйных матэрыялаў. Тэхнолаг па Ленінскім раёне Магілёва выбарчага штаба Ганчарыка Алена Лазарава была сілком дастаўленая ў Цэнтральны РАУС Магілёва за тое, што раздавала выбаршчыкам газету НАША СВАБОДА. На думку міліцыянераў, газета была выдадзеная незаконна, хоць і мела выходныя звесткі. Складзены пратакол аб канфіскацыі друкаванага выдання. У той жа дзень у вадзіцеля абласнога штаба пры даглядзе аўтамабіля быў канфіскаваны тыраж магілёўскай недзяржаўнай газеты «Де факто» Акрамя таго, паводле словаў сведак, кожны дзень непадалёку ад уваходу ў выбарчы штаб адзінага кандыдата дзяжурыць аўтобус з супрацоўнікамі міліцыі і АМАПа.

**Магілёўская вобласць**

У Магілёўскай вобласці старшыня ўчастковай выбарчай камісіі №10, якая месціцца ў будынку Лапаціцкай сярэдняй школы Слаўгарадскага раёна, агітавала за А.Лукашэнку на выбарчым участку. Гэты факт стаў вядомы Беларускаму Хельсінкскаму камітэту. У пакоі, дзе адбывалася датэрміновае галасаванне, знаходзіліся агітацыйныя плакаты, якія заклікалі галасаваць за кандыдата Лукашэнку. На пытанне, хто развесіў плакаты, старшыня выбарчай камісіі Ніна Герасіменка паведаміла, што плакаты яна прывезла ў школу і атрымала іх у раённай выбарчай камісіі ад яе старшыні Веры Бяловай. Мэта – правесці ў сваёй вёсцы агітацыю за А.Лукашэнку, аднак, жанчына не паспела расклеіць іх па вёсцы і таму развесіла іх па пакоі, дзе адбывалася датэрміновае галасаванне. Апроч таго, сп-ня Гераcіменка паведаміла, што атрымала ад В.Бяловай указанне не даваць ніякіх звестак пра ходу выбарчага працэсу ні грамадзянам, ні журналістам, ні, тым больш, назіральнікам.

У Бабруйску, на бацькоўскім сходзе ў СШ №19 намеснік кіраўніка Адміністрацыі Ленінскага раёна горада сп. Алейнікаў Андрэй Іванавіч заклікаў бацькоў да ўдзелу ў датэрміновым галасаванні. На бацькоўскім сходзе прысутнічала каля 150 чалавек. Падобныя бацькоўскія сходы прайшлі практычна па ўсіх школах.

У магілёўскім філіяле грамадскай арганізацыі «Фонд імя Л. Сапегі» і шклоўскім філіяле «Рэспубліканскага клуба выбаршчыкаў» была сканфіскаваная ўся аргтэхніка. Абедзве гэтыя арганізацыі былі актыўнымі ўдзельнікамі праграмы па незалежным назіранні. Увечары ў офіс магілёўскага філіялу «Фонду імя Льва Сапегі» ўварваліся каля 15 супрацоўнікаў міліцыі. Без тлумачэння сваіх дзеянняў і без прад'яўлення адпаведных дакументаў яны канфіскавалі ўсю аргтэхніку, якая знаходзілася ў офісе. Кіраўніку філіяла Уладзіміру Шанцаву так і не ўдалося дазнацца, куды вывозіцца абсталяванне арганізацыі – тры камп'ютэры і факс. У гэты ж дзень у Шклове была канфіскаваная аргтэхніка і ўвесь наклад газеты «Шкловские новости» (300 асобнікаў) у раённым філіяле ГА «Рэспубліканскі клуб выбаршчыкаў».




# Абвастрэнне хранічнага беззаконня

### 7 верасня

**Мінск**

Падчас правядзення датэрміновага галасавання ў мінскіх ВНУ назіраліся масавыя парушэнні заканадаўства і канстытуцыйных правоў студэнтаў. Асабліва жорстка дзейнічала адміністрацыя БДПА: намеснік дэкана будаўнічага факультэта Саяпін казаў студэнтам, што той, хто не прагаласуе датэрмінова, будзе пасля выбараў выгнаны з акадэміі, выселены з інтэрната і г.д. Пагрозы з боку дэканата вымушалі студэнтаў адмовіцца ад права, гарантаванага ім арт. 5 Выбарчага кодэкса самім вырашаць, ці прымаць ім удзел у выбарах. Падобныя парушэнні назіраліся ў Беларускай акадэміі мастацтваў, Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі, на факультэце журналістыкі (дэкан Вераб'ёў В.П. і намеснік дэкана Рудэнка А.А.) Белдзяржуніверсітэта, у медінстытуце і г. д.

Запалоханыя студэнты звярталіся па дапамогу ў ПЦ «Вясна», але пісаць скаргі ў пракуратуру адмаўляліся. Нават навучэнцы вядучага юрыдычнага ВНУ краіны – юрфака БДУ не мелі годнасці і смеласці сказаць «Не!» дэкану Гадунову і намесніку дэкана Сатоліну, якія абыходзілі інтэрнат на Машэрава, 9 з прапановамі прагаласаваць датэрмінова. Пры гэтым вядомейшыя юрысты краіны выглядалі няёмкімі, відаць, адчуваючы проціпраўнасць сваіх дзеянняў, і скардзіліся студэнтам, што яны «таксама людзі залежныя».

Каля 16 гадзінаў супрацоўнікамі міліцыі быў затрыманы і дастаўлены ў Савецкі РУУС Антон Архіпаў. Падставай для затрымання стала тое, што юнак заклікаў студэнтаў БДПА не ўдзельнічаць у датэрміновым галасаванні і прапаноўваў ім замест гэтага есці вермішэль хуткага прыгатавання «Ралтон», якую ён у той жа час распаўсюджваў бясплатна.

У мінскай штаб-кватэры грамадскага аб'яднання «Задзіночаньне беларускіх студэнтаў» (ЗБС) прадстаўнікі праваахоўных органаў апісалі перадвыбарныя матэрыялы і атрыбутыку. «Наша з'яўленне ў штаб-кватэры ЗБС выклікана шэрагам прычынаў», — паведаміла БелаПАН супрацоўнік Пракуратуры Рэспублікі Беларусь Дар'я Лебедзева. Паводле яе словаў, «паступаюць скаргі, звязаныя з тым, што апошнім часам у Мінску распаўсюджваецца друкаваная прадукцыя невядомага паходжання». Акрамя таго, адзначыла Дар'я Лебедзева, часам назіральнікамі на выбарчых участках прадстаўляюцца людзі, не маючыя на тое падставаў. У прыватнасці, паводле яе словаў, адзін з членаў ЗБС паведаміў праваахоўным органам, што «Задзіночаньне беларускіх студэнтаў» наогул не вылучала сваіх назіральнікаў ва ўчастковыя выбарчыя камісіі.

«У выніку праверкі намі ўстаноўлена, што па юрыдычным адрасе аб'яднання адсутнічаюць яго статутныя дакументы, прадстаўнікі кіраўніцтва і дакументацыя аб вылучэнні назіральнікаў ад «Задзіночаньня беларускіх студэнтаў», — заявіла Дар'я Лебедзева. Намеснік старшыні рады ЗБС Вольга Кузьміч, у сваю чаргу, адзначыла, што гэта не першы выпадак наведвання офіса аб'яднання прадстаўнікамі праваахоўных органаў. Паводле яе словаў, чыноўнікі маглі б ужо даўно закрыць ЗБС, але апасаюцца зрабіць гэта напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў.

**Віцебск**

Сябра адной з выбарчых камісіяў пісьмова засведчыла факт ускрыцця выбарчай скрыні для датэрміновага галасавання ўначы з 6 на 7 верасня, перадае радыё «Рацыя». Сябра выбарчай камісіі № 46 Першамайскага раёну Віцебску Галіна Магучая 7 верасня пісьмова засьведчыла той факт, што, на яе думку, скрыня для датэрміновага галасавання на 46-ым выбарчым участку ў Віцебску, што месціцца ў СШ № 37, уначы з 6 на 7 верасня адчынялася. 6 верасня Г.Магучая дзяжурыла на ўчастку на пару з сакратаром камісіі. Згодна з прынятым парадкам, дзяжурства перадаецца раніцай наступнага дня. Пры гэтым патрабуецца зьвяртаць асаблівую ўвагу на сургучную пячатку ды спіс сябраў камісіі з подпісамі на вечку скрыні. Па сканчэнні галасаваньня 6 верасьня Галіна Магучая ўважліва праверыла пячатку й подпісы. Раніцай 7 верасьня яна з жахам пабачыла, што разьмяшчэнне сьпісу за ноч змянілася.

Яна ўголас выказала абурэньне ў прысутнасці іншых сябраў камісіі. Затым напісала адпаведную заяву на імя старшыні ўчастковай камісіі, дзе апісала прыкметы, па якіх яна вызначыла, што ўначы скрыню адчынялі. У заяве таксама падаюцца прозьвішчы сябраў камісіі, якія прысутнічалі падчас перадачы дзяжурства ды выкрыцьця гэтага факту. Неўзабаве аналагічная заява была ўручаная і старшыні тэрытарыяльнай выбарчай камісіі Першамайскага раёну Віцебску.

**Гомель**

Міліцэйскі патруль затрымаў актывіста абласнога штаба падтрымкі Уладзіміра Ганчарыка Андрэя Зайцава толькі за тое, што на ім была футболка з надпісам «Выбіраеш ты». Разам з А.Зайцавым былі затрыманыя яшчэ два юнакі ў такіх самых майках. Усіх затрыманых даставілі ў Цэнтральны РАУС і змясцілі ў камеру папярэдняга зняволення. Яны былі вызваленыя толькі праз тры гадзіны. Пры гэтым пратакол аб затрыманні не быў складзены, сцвярджае «Незалежнае назіранне». Міліцыянты нават не прадставіліся.

У той жа час каля будынка Гомельскага дзяржаўнага універсітэта былі затрыманыя актывісты перадвыбарнага штаба У.Ганчарыка Канстанцін Клімаў і Мікалай Маскіцкі, якія раздавалі агітацыйныя матэрыялы.

*Заканчэнне на стар.5*

# Батька уже проиграл

*Я не очень верю в политические чудеса: проигрыш Александра Лукашенко на выборах президента Белоруссии из их числа. Если вспомнить, что в странах с куда меньшим давлением власти на общество все решал в конечном счете не избиратель, а административный ресурс, становится ясно, насколько просто Лукашенко выиграть даже в том случае, если от него отвернется часть номенклатуры.*

Конечно, могут привести югославскую аналогию: накануне последних для нынешнего заключенного Слободана Милошевича президентских выборов в его поражение тоже никто не верил... Но Югославия до Милошевича жила совсем иначе, оппозиция и до победных для Воислава Коштуницы президентских выборов добивалась значительных успехов — в частности, она получила большинство в Белграде и нескольких других крупных городах Сербии на местных выборах и добилась от власти, чтобы та признала ее победу. А кроме того, была война, были бомбежки, и Милошевичу пришлось оставить то самое Косово, из которого он обещал сербам выгнать албанцев. Возможно, многие избиратели могли простить своему президенту некоторый недемократизм, но не могли простить проявление слабости.

В Белоруссии ничего подобного не происходит. Запад не озабочен свержением Лукашенко так, как он был озабочен свержением Милошевича, — иногда даже кажется, что он считает это внутренним делом России. Россия, возможно, и была бы рада избавиться от Лукашенко, но, очевидно, не видит ему никакой альтернативы.

Но на самом деле эти выборы батька уже проиграл. Проиграл хотя бы потому, что оппозиции, до этих выборов страдавшей от амбиций отдельных своих лидеров, разбитой на противостоящие друг другу лагеря, — удалось объединиться и выдвинуть против Лукашенко единого кандидата — Владимира Гончарика. Несмотря на присутствие в избирательном бюллетене белорусского клона Жириновского Сергея Гайдукевича, эти выборы воспринимаются сегодня как противостояние Лукашенко и Нелукашенко — вне зависимости от личных качеств Гончарика, его предвыборных обещаний и коалиционных договоренностей руководитель белорусских профсоюзов выглядит в глазах рядового избирателя просто альтернативной фигурой, человеком, который будет править по-другому.

Стоит напомнить, что на тех же выборах в Югославии Милошевичу помимо Коштуницы противостояло еще два казавшихся сильными оппозиционных кандидата. А на выборах президента Украины объединение ведущих кандидатов от оппозиции в «каневскую четверку» закончилось ее крахом — и оба политика, претендовавшие на место единого кандидата, выступали самостоятельно. В Белоруссии все получилось гораздо цивилизованнее, и это свидетельствует, что уровень политической культуры белорусской оппозиции намного выше, чем уровень политической культуры белорусской власти. Среди противников Лукашенко зарождается понимание того, что только сплоченным противостоянием непредсказуемому и некомпетентному лидеру можно будет добиться его отставки.

На самом деле можно сказать, что сегодня в Белоруссии зарождается то, что так и не состоялось ни в России, ни на Украине, – гражданское общество. Но русским и украинцам были предложены режимы, с которыми удобно идти на компромиссы и которые как бы подразумевают свое будущее перерождение во что-то более похожее на классическую демократию. А белорусский режим не оставляет своему обществу выбора — эта страна вздохнет спокойно только тогда, когда Александр Лукашенко не будет ее президентом.

Нынешняя оппозиционная консолидация прежде всего означает, что все заинтересованные в будущем Белоруссии стороны убедились в наличии выбора, в возможности отыскать фигуру, способную заменить Лукашенко. Если Кремль не захотел вмешиваться в президентские выборы сегодня, это не значит, что он не захочет отыскать нового «интегратора» завтра. Если для Запада Белоруссия не важна сейчас, это еще не означает, что так будет всегда. Но еще недавно казалось, что ничего нельзя сделать. А сегодня возможность появилась.

Тем более что в легитимность будущих выборов никто никогда не поверит. Более того, я даже допускаю, что Лукашенко мог бы победить законно — только он и его окружение просто побоятся реального подсчета голосов. И тем самым оставят возможность оспаривать их в ситуации, когда условия для замены президента Белоруссии действительно созреют.

**Виталий ПОРТНИКОВ**
**Грани.ру**

## Заявление БХК

***О вмешательстве Российской Федерации в кампанию по выборам Президента Республики Беларусь***

РОО «Белорусский Хельсинкский комитет» отмечает целенаправленное вмешательство должностных лиц органов государственной власти Российской Федерации, политиков, средств массовой информации, деятелей культуры в ход избирательной кампании.

Неофициальную встречу на церемонии закрытия фестиваля «Славянский базар» в Витебске Владимира Путина с Леонидом Кучмой и Александром Лукашенко, баллотирующимся на новый срок, наблюдатели расценивают как прямое иностранное вмешательство в президентскую гонку и поддержку конкретного кандидата. Белорусские государственные СМИ используют данную встречу в агитации за Лукашенко. В Минске, Витебске и других городах Беларуси развешены плакаты с фотографиями Путина, Кучмы и Лукашенко, рекламирующие поддержку кандидата президентами «братских славянских народов».

С неофициальными агитационными визитами Минск посетили руководитель фракции коммунистов Г.Зюганов, мэр Москвы Ю. Лужков. Вице-спикер Государственной Думы РФ В.Жириновский, цинично попирая белорусское законодательство, занимался открытой агитацией за Лукашенко и очернял его соперников, выступая на Белорусском телевидении и встречаясь с избирателями.

Ансамбль министерства обороны РФ «Голубые береты» проводит в регионах Беларуси серию концертов в поддержку Лукашенко. Тем же занимается Надежда Бабкина и другие российские артисты.

Эфирное время российских телевизионных каналов, вещающих на территории Беларуси (ОРТ, РТР, НТВ и др.), посвященное кандидатам в Президенты Беларуси, распределено с огромной диспропорцией в пользу Лукашенко.

А.Лукашенко неоднократно заявлял о помощи спецслужб РФ в борьбе с оппозицией. На встрече с избирателями 4 сентября, которая транслировалась по телевидению, он публично заявил о предоставлении ему спецслужбами России материалов, компрометирующих деятельность белорусской оппозиции и гражданского общества. Эти материалы 5 сентября опубликовала газета Администрации Президента «Советская Белоруссия» со ссылкой на «влиятельный московский центр «Независимая политическая экспертиза».

РОО «Белорусский Хельсинкский комитет» считает иностранную поддержку кандидата в Президенты недопустимой, несоответствующей международным стандартам свободных демократических выборов, нарушающей суверенитет Республики Беларусь, белорусское законодательство.

Мы заявляем решительный протест российскому вмешательству во внутренние дела Беларуси и влиянию на волеизъявление граждан.

**Председатель БХК**
**Татьяна Протько**

# Янтарная надежда становится реальностью

## *«Партнерство ради мира» на территории Литвы*

6 сентября на территории Литовской Республики завершились очередные военные учения «Янтарная надежда 2001». С 1995 года на такого рода мероприятиях участники отрабатывают задачи взаимодействия между воинскими подразделениями. Причем, как стран-участниц *NATO*, так и стремящихся вступить в Североатлантический альянс. Следует отметить, что такие задачи были сформулированы еще в 1994 году в программе *NATO* «Партнерство ради мира», призванной содействовать кооперации между *NATO* и другими странами Европы с целью укрепления безопасности. На нынешних учениях военнослужащие 14 стран, в том числе и национальные гвардейцы США, обучались на полигонах Рукла и Пабраде выполнению миротворческих функций и борьбе с терроризмами.

В этом году участники учений были объединены в бригаду, которая состояла из литовско-польского батальона (*LITPOLBAT*), балтийского батальона (*BALTBAT*), куда входили солдаты Литвы, Латвии и Эстонии, международного батальона, инженерного, медицинского подразделения и авиагруппы. Очевидно, что этот перечень ни в какое сравнение не идет с составом участников белорусских маневров «Неман-2001», которые, по словам Лукашенко и некоторых других деятелей, стали адекватным ответом на «Янтарную надежду 2001». Правда, будучи на учениях в Литве, пришлось услышать и такую причину проведения «адекватных» учений в Беларуси. По словам одного белорусского военного наблюдателя, приглашенного литовцами, благодаря «Неман-2001» Беларусь заметили в Европе, да и в мире. То есть мотивы проведения оказались политическими. По поводу таких откровений можно отметить, что способы быть замеченным бывают разные. К примеру, как-то один известный белорусский поэт решил публично, при дамах, опорожниться в камин. Его тоже заметили.

Как известно, наблюдателей хватало на прошедших обоих учениях, что должно было продемонстрировать их открытый характер. Но «Неман-2001» был открыт не для всех. Журналистам негосударственных СМИ в аккредитации было отказано. Совершенно по-другому было организовано в Литве. Посольство Литовской Республики в Беларуси пригласило разных белорусских журналистов для ознакомления с ходом учений. Даже из телевидения, которое постоянно пугало «Янтарной надеждой» граждан Беларуси. Приехавшие журналисты имели практически неограниченные возможности контактировать с его участниками всех рангов. Вплоть до министра обороны и членов штаба учений, в который входили генералы и полковники разных стран.

При такой доброжелательности как-то диковато выглядело отношение к белорусским журналистам со стороны посла РБ в Литве Владимира Гаркуна. Он просто, без всяких объяснений, отказался вообще с ними говорить. А своим мрачным видом, надо полагать, выражал отношение своего руководства к происходившему на полигоне Рукла. Оно и понятно. Ведь утвержденная в июле текущего года самим Лукашенко новая Концепция национальной безопасности к такому отношению обязывает. В этом документе прямо указываются враги Беларуси. В разделе «Безопасность Республики Беларусь в политической сфере» зафиксировано, что при поддержке США и других государств-членов *NATO* «растет активность деструктивных сил внутри страны по дестабилизации общественно-политической обстановки и насильственному изменению конституционного строя». С этим положением белорусская Концепция уникальна. Даже для российских союзников. Но, как оказалось, эта особенность, да и документ в целом остаются неизвестными для военного атташе РБ в Литве и одного старшего офицера аппарата министерства обороны Беларуси, присутствовавших в качестве наблюдателей. Военный атташе вообще высказал мнение, что, мол, Концепция еще не опубликована, и поэтому он о ней ничего сказать не может. Видимо, такое настроение полковника Божана можно объяснить и тем, что, находясь в Вильнюсе уже четвертый год, он как бы не у дел. После назначения генерала Усхопчика заместителем министра обороны Беларуси контакты между министерствами обороны двух соседних стран прекратились. Ведь генерала по-прежнему ждут в Прокуратуре Литовской Республики. Можно вспомнить и следующие обстоятельства, предшествовавшие учениям в Литве.

По имеющейся информации, министр обороны Литвы Линас Линкявичюс направлял официальное приглашение приехать на учения министру обороны России Сергею Иванову. Но тот счел возможным вместо себя направить на учения командующего Балтийским флотом. Белорусского же министра обороны генерала Леонида Мальцева приглашать и не предполагалось. Такова цена за Усхопчика. Поэтому все декларации из Минска о намерениях развивать двусторонние отношения с Литвой и с *NATO* остаются таковыми. Не более. А ведь Беларусь продолжает числиться участником программы *NATO* «Партнерство ради мира» и своего представителя в Брюсселе имеет. Но, видимо, при нынешнем своем главнокомандующем белорусским военным суждено быть неким жупелом для *NATO*, который порою выглядит карикатурно. К примеру, когда облачается в непонятную для самих военных парадную форму одежды с лампасами. Никто из них так и не может назвать нынешнего воинского звания главнокомандующего (это должность) Лукашенко. В союзной России такого нет. В том числе и военного министра обороны. Как говорили некоторые наблюдатели, попавшие на «Неман-2001» и увидевшие Главного в новой форме: «Мы вновь оказались в плену абсурда». И это еще больше усилило такое же ощущение к так называемому союзному государству.

Что касается Вильнюса, то он намерен и дальше терпеливо и открыто объяснять всем желающим свои цели и что для этого делается. Как отмечает министр обороны господин Линкявичюс:



Полковник Валдас Туткус, командующий литовскими сухопутными силами, бывший афганец

«У нас нет ничего, что было бы направлено против других государств, не говоря уже о соседях». Просто в Вильнюсе считают, что *NATO* способно обеспечить стабильность и безопасность. А в Минске и в Москве признают, что стремление Литвы вступить в *NATO* и Европейский Союз — ее суверенное право. Так что основа для взаимопонимания и добрососедства есть. Было бы желание и, как принято говорить, политическая воля руководства.

При открытии учений «Янтарная надежда 2001» отмечалось, что это последние, столь крупные учения на территории Литвы накануне пражского саммита *NATO* летом 2002 года. Ожидается, что на нем будет принято решение о вступлении Литвы в Североатлантический блок. При подведении итогов было отмечено, что все поставленные задачи были на учениях с честью выполнены. И Литва продемонстрировала высокую степень готовности стать новым членом *NATO*. По словам командующего Сухопутными силами литовской армии полковника Валдаса Туткуса, такая оценка превращает янтарную надежду Литвы интегрироваться в Европу в реальную перспективу.

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**
**Вильнюс**



Взвод во время учений

